жэньня праваслаўнай царквы ў Польшчы"... і г. д., бо „тады (?) ў Вільні панавала сільнае ўзбурэньне думак сярод праваслаўных".

Але цяпер нішто не перашкаджае сэн. Багдановічу папрабаваць ізноў шчасьця ў п. п. камісара і дэлегата, якія зусім не абязаны ізноў адмовіць (але зразумела і дазволіць!) яму зрабіць публічную лекцыю на гэту тэму...

Вось, як дасьціпна адказывае на інтэрпэляцыі ў Сэнаце новы міністар рэлігіяў і асьветы.

**Чаму п. Куратар nie ustępuje?** Здаецца, 10 сакавіка было апошнім тэрмінам, калі „абяцаныя" п. Павлюкевічу, Косьцевічу і Валэйшы беларускія курсы для настаўнікаў пачатковых школаў павінны былі ўжо адчыніцца. Замест гэтага „зачыніліся" самі паны Паўлюкевіч і Валэйша... Сябры дэлегацыі „Часовай Рады" ці „Прасьветы" цяпер, — пасьля скандальнага краху ўсей гэтай тугуттаўскай камэдыі,—апавядаюць, што на прыёме ў п. куратара Гонсёровскага, калі ён казаў аб курсах, адзін з дэлегацыі недаверчыва запытаўся:

„Пане куратар, ці напэўна гэтыя курсы будуць зроблены? Можна становуча паведаміць аб гэтым беларускае грамадзянства?".

Пан куратар аж абурыўся:

„Шаноўны пане, я-ж кажу, што курсы будуць напэўна і ў свой час, — гэта справа майго гонару!".

А пасьля дадаў зусім выразна:

**„Калі курсаў не дадуць, дык я выйду ў адстаўку"** („ja ustąpię).

І вось ужо паўтара месяца, як—пасьля сроку—курсаў няма...

Дык хаця-б мець—у кампэнсацыі — адстаўку п. Гонсёровскага!

Але-ж не—сядзіць і, здаецца, яшчэ мацней, як да „курсаў" і да рэвэляцыяў п. Рахальскага.

Што значыць... добры міністар асьветы!

**Да вобыскаў і арыштаў у Вільні.** У часе „маёвых" вобыскаў у Вільні, аб іх мы ўжо пісалі, як выясьнілася, зроблены вобыскі яшчэ ў такіх беларусаў: рэдактара „Krynicy" Туронка, студэнта Марцінчыка, Будзькі, ды карэктаршы нашае часопісі, Шалешчыхі.

# Карэспандэнцыі.

## „Сыстэма пратаколаў".

**З Наваградчыны.** Адзін былы паліцыянт з Наваградку зварачае ўвагу на асаблівую „сыстэму пратаколаў", якую ўвяла паліцыя:

„Служыў я ў паліцыі на пастарунку ў Наваградку ў гэтым годзе. Камандантам гэтага пастарунку быў і ёсьць „старшы пшадоўнік" А. Мірановіч, каторы прыказаў пад грозьбаю кары сваім пад'уладным—паліцыянтам, каб кожны з іх у працягу месяца зрабіў што-найменш 8 пратаколаў.— Ня ведаю, ці гэта сам ён выдумаў, ці яму прыказаў камандант павету подкам. Крэт, але, як пасьля я даведаўся, дык гэта будзе „конкурс" усіх пастарункаў у павеце, каторы больш з іх зробіць пратаколаў. Паліцыянты, як ведама, атрымаўшы прыказ, кожны стараецца выпаўніць яго, шукаючы і пільнуючы жыхараў гораду на кожным шагу, каб за якую макуліну прывязацца. Але-ж жыхары даўно ведалі стараньне паліцыі, і парадак рабілі, як толькі маглі. А паліцыя знаходзіць такі, за што прывязацца: знойдзе саломіну або сеніну перад хатаю, на вуліцы, што натраслося з вазоў або паперку, дык і пратакол... Жыхары бедныя аж ня ведаюць, што рабіць: ці цэлы дзень замятаць, ці і зусім не замятаць, бо „ўсё роўна будзе пратакол", кажуць, і прыдзеццаісьці да староства і там плаціць якіх 5 злотых. Паліцыянтаў на пастарунку гэтым было каля 50 чалавек, дык, як напіша кожны па 8 пратаколаў, то ў працягу месяца будзе—400. Гэта проста для жыхараў бяда!..

Дык вось і я, гледзячы на гэткае „стараньне" нашай паліцыі, узяў дый увольніўся".

Ад сябе дадамо, што нам ведама аб гэтай „сыстэме" і ў Віленшчыне. А „знамяніты" камісар Шольц, які пры помачы такое „сыстэмы" і шантажу рабаваў купцоў, сядзіць на Лукішках... Вось, да чаго падбівае падобны спосаб паступаньня паліцыі, загады, відаць „зьверху".

## Не пераробяць!

**(Сергеевічы, гміны Чамерскай, пав. Слонімскага).** 2-га красавіка да жыхара вёскі Сергеевіч, Міхася Дабрыянава зьявіўся паліцыянт № 813 і двох пастарунковых касьцянеўскага пастарунку. Сказалі гаспадару адзецца, а калі той адзеўся, дык паліцыянт аб'явіў, што будуць шукаць якойсьці-то камуністычнай літэратуры і аружжа. Скамандаваў: „рукі ўверх!", і пачаўся вобыск.

У шапцы пад футрай знайшлася якаясь-то чыстая паперка; доўга ўзіраўся на яе паліцыянт з усіх бакоў, ня верыў, што яна чыстая. Шукалі доўга, перапаролі ўсе куткі, павыкідалі з печы дровы, шукалі ў попелі, скрынях, бялізьне, у каморы выдралі падложыну, заглядывалі пад падлогу, спаролі штыкамі гной у хляве, ды страху, — але ніякае літэратуры ні аружжа не знайшлі, бо іх няма. Забралі некалькі №№ газэт „Беларуская Доля", кніжачку „Як адкрыць беларускую школу" і запісную кніжачку, аб чым сьпісалі пратакол.

Вось табе і языковыя законы: ня можна і газэціну чытаць у сваей роднай мове, бо ўжо і пайдуць прычэпкі! Няўжож думаюць адняць у нас нашу мову?

Не, выбачайце, паночкі! У палякоў нас ужо не пераробіце!

**Селянін.**

## Стойка—коштам толькі сялян.

*(Вялейскі пав.).*

Вялікая крыўда дзеецца нашым людзям у справе арганізаваньня „стойкі" пры гмінах. У некаторых гмінах іншых паветаў яшчэ неяк так сталася, што на выдаткі па ўтрыманьню стойкі гміна зьбірае падатак ад дзесяціны з кожнага гаспадара, і тады людзям лягчэй, бо і паны, якія маюць шмат зямлі, змушаны плаціць, Але ў нас, у Вялейскім павеце, сталася так, што ўвесь цяжар лёг на плечы сялян. Сталася гэта з тае прычыны, што падатак на ўтрыманьне стойкі зьбіраецца не ад дзесяціны, а ад каня.

Вёска з 40 асобных гаспадарак, якая мае ўсяе зямлі—ворнай, сенажацей і няўдобнай (пяскі, балоты) і выгану і заросьнікаў—270 дзесяцін, плаціць 40 частак (за 40 каней), а ў гэты-ж час панскі двор, які мае столькі-ж, скажам, зямлі (270 дзес.), але ў якім ёсьць цяпер толькі 4 кані, плаціць толькі 4 часткі, г. зн. ў 10 разоў менш за ўсю вёску. Калі па 3 зл. ад каня, дык з гэнай вёскі бяруць падаткаў на стойку 120 злотых, а з двара толькі 12 злотых. А ёсьць-жа ў Вялейскім павеце і такія паны, як Гецэвіч, Багдановіч, Халхоўскі і др., якія валадаюць аграмаднымі абшарамі зямлі, а плацяць на стойку надта мала, бо не заводзяцца коньмі так, як да вайны. Большасьць паноў аддаюць зямлю на запашку сялянам. Сяляне з прычыны зямельнага голаду за ўсялякую цану бяруцца засяваць панскую зямлю, прадаюць за безцэн сваю працу, свае сілы, каб хоць што небудзь прыдбаць для паўгалоднай сям'і, а пан, дастаючы ад свайго запашніка большасьць ураджаю, грошыкі нейкія выкідае на стойку, бо трымае мала сваіх коней. І выходзіць так, што стойка трымаецца бедакамі-сялянамі, а паны пасьмеіваюцца себе ў кулак над глупотай сялянскай.

Вінаваты ўва ўсей гэтай справе гмінныя рады, і толькі яны. Гміна — гэта-ж самаўрад, ад пастановы якой залежыць расклад падаткаў на ўтрыманьне стойкі—ці ад зямлі, ці ад каня. Калі рада гмінная ўтварылася з выбараў, дык трэба націскаць на радных, каб больш дбалі яны аб інтарэсах сялян, але не паноў. А на будучыну—гэта навука для нашага селяніна, каб выбіраў у гмінную раду людзей сумленных, непрадажных, якія-б належным спосабам баранілі інтарэсы свайго брата бедака. **С. М.**

## „Хамскія магільнікі".

**З Дзісьненшчыны.** У вёсцы Тэляшы, Празароцкае гміны, старшы вайсковае стражніцы (з 7-га гранічнага бат. 2-й камп.) капрал Станіслаўскі, ня маючы гдзе ўзяць каменьняў дзеля нейкае будоўлі,—паехаў на Тэляшаўскі магільнік і набраў каменьняў. Але сяляне гэтае заўважылі, перанялі „пана" капрала, адабралі каменьні і пачалі стыдзіць „героя". Толькі „пан" капрал нічым іншым ня мог вытлумачыцца, як адказам што „takie chamskie cmentarze mam w ....".

Сяляне аб гэтакім учынку і зьневажэньні магільніка заявілі паліцыі, якая сьпісала пратакол, — толькі напэўна паслала яго за „ўгол". А „пан" капрал пагразіўся, што Тэляшы будуць яго „добра памятаць".

**Зязюля**

**З Дзісьненшчыны.** З Нова-Пагосцкага прыходу атрымалі мы абшырнае пісьмо за подпісам дзесяцёх асоб, у якім аўтары горача пратэстуюць проці надрукаванай у Павлюкевічаўскім і Косьцевічаўскім „Грам. Голасе" стацьці, услаўляючай тамтэйшага сьвяшчэньніка Сіняўскага, як беларуса. Падпісаныя заяўляюць, што ён „зрабіўся" беларусам толькі тады, як яго „пачалі пароць з Новага Пагосту, і вінавацяць яго ў цэлым радзе дужа брыдкіх пастунка́ў. Аўтары заяўляюць, што копіі гэтага пісьма яны адначасна пасылаюць у Сынод (у Варшаву) і віленскаму архіяпіскапу Хвядосу.

З свайго боку адзначаем, што, калі сьв. Сіняўскага ўзяўся бараніць „Грам. Голас", дык ужо гэтага даволі, каб уцяміць, якога сорту гэта „беларус"...

Празароцкія прыхажане, таго-ж павету жаляцца на сьв. Зыбайлу, што часова быў тут і пабраў цэнныя царкоўныя рэчы і ня хоча вярнуць. Калі сяляне прысталі, каб вярнуў, дык адмовіўся і заявіў, што напісаў да архіяпіскапа, просячы „благаславіць" на карыстаньне тымі рэчамі.

**З Слонімшчыны.** З Старавейскай гм., вёскі Вострава, наракаюць на дыякана Б. Кірыка, які ў польскай урадавай школе, у якой вучацца беларускія дзеці (бо-ж беларускай не даюць!) навучае закону божага, ды пры гэтым брыдка лаець вучняў. Нядаўна-ж загадаў вучням прынесьці скаромніны ў немалой меры за крыжыкі, якія суліў дзецям,—але-ж ніхто ня прынёс ні смашных кілбас, ні сала, ні масла, ні яек. Тады ўжо казаў плаціць па 50 грошы за крыжык, але і на гэта ахвотнікаў не знайшлося. Дык „лаяльны" ацец дыякан толькі лішні раз злаяў дзяцей, ды сказаў, што ўсе яны—бальшавікі, камуністы й бязбожнікі.

# З Радавае Беларусі.

## Дзіўнае зьявішча.

Уся буржуазная прэса ў Польшчы з „Грам. Голасам" на чале гвалту крычыць, што ў Радавай Беларусі пад іменем беларушчыны яшчэ вельмі глыбака сядзіць маскоўшчына. Але тая-ж прэса замаўчывае зьявішча, якое запраўды выдаецца нам дзіўным.

Як інфармуе нас прыезджы з Меншчыны паляк, тамака нязвычайна шырака вядзецца... **польская** асьветная праца! Скуль тамака знайшлося польскае насяленьне, нет ведама: ведама толькі, што тамака яго ніколі ня было! Праўда, ёсьць тая значная лічба беларусаў-каталікоў, якія пад павадырствам ксяндзоў—польскіх эндэкаў „перарабляюцца" ў палякоў,—і вось для іх—на жаданьне (хоць і ўкрытае) гэных ксяндзоў і творацца польскія школы замест, як належыцца, беларускіх.

Як прыклад, наш інфарматар з гордасьцяй заявіў, што ў аднэй толькі Случчыне ёсьць ужо 17 польскіх школ (сямёхгодак!) і будзе хутка балей, хаця палякоў тамака, як усім ведама, зусім малы процант. Будзе балей—бо ў гэтым кірунку польскае грамадзянства „энэргічна працуе"....

Так дзеецца ў **Беларускай** Рэспубліцы. На адзін павет польская **меншасьць** мае 17 школ. А ў межах **Польскае** Рэспублікі на ўсю Заходнюю Беларусь беларуская **большасьць** (каля паўтраця міліёну!) і 17 беларускіх урадавых школ ня мае!..

## Жыдоўская калянізацыя.

Тая-ж асоба апавядае нам аб рассяленьні жыдоў на зямлі. Справа ў тым, што палажэньне вялізарнае масы дробных жыдоўскіх гандляроў, якія заўсёды займаліся таргоўляй, цяпер прымушаны кінуць сваю старую прафэсію. І вось ім няма за што рук зачапіць. Дзеля гэтага радавы ўрад Беларусі і прымушаны знайсьці для іх нейкі занятак, каб мелі магчымасьць жыць. Зямля ім надзяляецца пераважна каля мястэчак, дзе ў іх ёсьць хаты; асушаюцца балоты, падпраўляюцца няўжыткі, карчуюцца і заворываюцца пасекі, бо немагчыма браць зямлю, якая ўжо раней была падзелена між сялянствам.

Вялікай ахвоты да працы на ральлі жыды, з няпрывычкі, ведама, ня маюць, – але голад гоніць іх на гэтую новую работу.

# Юрыдычныя парады.

**С. Буйніцкаму** ў Наваградчыне. Калі зямля па падпісаньні дакумэнту перайшла ў рукі пакупца, то ён можа прасіць суд перапісаць уласнасьць на яго імя (закон 2 ліпня 1924 г.).

**М. Мілевічу** ў Галынцы, Слонімск. пав.—Маеце роўнае права з братам.

**Ф. Грынюку** ў Суботніках, Валожынск. пав.— Бацька мае права адпісаць купленую зямлю, каму хоча.

**Гр. Кушнеру,** у в. Лапунове, Дзісьненск. пав.— На 1 і 2 п.: пакуль матка жывець, яна гаспадыня. На 3 п.: як скончыцца тэрмін, можна паставіць новыя варункі.

**Транчэўскаму.** Калі карыстаеце зямлёй па даверанасьці, дык зямля ня можа астацца вам.

**Т. Р—вічу** у Алькавіцкай гміне.— Калі была пастанова гміны аб падатку з самакатаў, дык маець права.

**Падпішчыку № 1651.**—Пакуль—што нічога зрабіць ня можаце.

**В. Клемяцічу** Крывіцкая гм., Вялейскага пав.— Калі дзядзька не ўсынавіў гэтага хлопца, дык права на спадчыну маеце.

**Падпішчыку навабранцу.** Могуць даць толькі адсрочку.

**Падпішчыку № 200.** Калі Ціунэль памер, дык даверанасьць Высоцкага ня маець моцы. Каб даць правільны адказ, трэба было-б ведаць умову, што зрабілі на судзе.

**Падпішчыку**, які пытаецца ў справе прымака **Лабэцкага**: зямля павінна належаць да сына, а калі ён малалетні, трэба ўстанавіць апеку.

**Янцы Бітэлю** ў Наваградчыне: трэба перш ведаць, калі бацька памёр, сколькі гадоў Вам і калі матка выйшла другі раз замуж.

**Максіму Сычу** ў Чамерскай гм., Слонімск. пав. За 200 руб. і працэнты ад 1915 г. цяпер можна высудзіць толькі каля 40 злотых.

**Юльяну Мядзьведзкаму** ў Баркоўшчыне ля Будслава. — Угавор з памершым гаспадаром аб арэндзе мае сілу і для новага гаспадара, калі зямля будзе прадана; трэба толькі, каб той, што купляе, быў павядомлены аб арэндзе.

**Тодару Ромашу.**—1) Калі рашэньне судзьдзі ў пару не абжалавана, дык нічога ня зробіш: трэба будзе плаціць. 2) Калі брат памер незадоўга перад вайной, дык дочка маець права на спадчыну.

**Канст. Сончыку**, в. Алексічы, Слонімск. пав.— Усё залежыць ад таго, ці бацька, ці брат быў гаспадаром абодвух хутароў; калі, ня гледзячы на купчую, поўным гаспадаром быў бацька, то ўсё павінна быць падзелена на роўныя часьці; калі-ж гаспадаром такім быў брат, то і цяпер абодва хутары будуць лічыцца яго.

Калі скрыня пасажная, дык у разьдзел ісьці ня можа.

**Грыгору Маліноўскаму** ў Вялейцы. — Дачка маець права на 1/7 часьць.

Рэдактар-Выдавец **Антон Пракапеня.**

Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.